Сёньня ў нумары:


- Якім бачыць новы ВС апазыцыя. (Ст. 5)
- «... Падвышкі цэнаў руйнуюць ня толькі дабрабыт насельніцтва, але й эканоміку». (Ст. 3)
- «Пагоня» знайшла ў Гародні мільянэра. (Ст. 3)
- За словам — у кішэню. Крыжаванка з каштоўнымі ўзнагародамі. (Ст. 8)
- Навіны Гародні і вобласьці, аб 'явы, рэкляма. (Ст. 1—8)





*Жыве Беларусь!*

# ПАГОНЯ

*Грамадзка-палітычная газэта*

***№ 1*** ***Пятніца, 17 красавіка 1992 года***


# «ЗА ЗЯМЛЮ І ВОЛЮ»



**Пад такім лёзунгам у мінулую суботу ў Менску адбыўся другі зьезд Беларускай Сялянскай партыі (БСП).**

**Старшыня Цэнтральнай Рады БСП Яўген Лугін у справаздачы адзначыў, што крызіснае становішча эканомікі рэспублікі — вынік камуністычнае дыктатуры. Асабліва цяжкія маральныя й матэрыяльныя страты пацярпела сялянства, таму адраджэньне сялянства — галоўная мэта партыі.**

**БСП мяркуе ажыцьцявіць зямельную рэформу, вярнуць селяніну права ўласнасьці на зямлю й іншыя сродкі вытворчасьці, права выбару формаў гаспадараньня і права распараджацца вынікамі сваёй працы. Разам з тым БСП не дамагаецца неадкладнага роспуска калгасаў: разбурыць старое, не стварыўшы новага, было б недаравальным глупствам.**

**Лугін, а пазьней і іншыя выступаючыя, крытычна паставіліся да ўтварэньня аграрнай партыі, якая аб 'яднала аграпрамысловую намэнклятуру рэспублікі, партыі «акупантаў».**

**Зьезд абмеркаваў таксама і прыняў Статут БСП, «Асноўныя напрамкі дзейнасьці» і Рэзалюцыю, у якой між іншым выказана патрабаваньне адстаўкі парляманта і ўрада Рэспублікі Беларусь.**

**Дэлегаты, а іх было 122, абралі старшыню Цэнтральнай Рады (зноўку — Я. Лугіна), яго намесьнікаў, Цэнтральную Раду. Адзначым, што ў намесьнікі трапіў і гарадзенец Валянцін Фядуцік, вядомы дзяяч Сялянскага саюза Беларусі.**

**В. Б.**

# ДЭПУТАТЫ БЕЛАРУСІ І ПОЛЬШЧЫ ПАРАЗУМЕЛІСЯ, БІЗНЭСМЭНЫ — НЕ СПЯШАЮЦЦА

Няцяжка заўважыць, што міжнародная палітыка ў краінах Усходняй Эўропы і былога СССР цалкам зьмяняецца. Стаўшы незалежнымі дзяржавамі, былыя рэспублікі вялікай краіны сьпяшаюцца завязваць новыя выгодныя палітычныя, эканамічныя і іншыя кантакты як з краінамі Захаду, так і паміж сабою. Беларусь, вядома, не застаецца ад гэтага ў баку, аднак, новыя сувязі ўсталёўваюцца, бадай, ня так хутка, як хацелася б.

З другога па чацьвёртага красавіка ў горадзе Беластоку (РП) адбылася Самаўрадавая канфэрэнцыя Польша — Беларусь. Яе арганізатарамі выступілі Форум сярэдняй і ўсходняй Эўропы пры Фондзе Стэфана Баторыя ў Варшаве, ваяводзкі самаўрадавы соймік у Беластоку і Фонд суседства Польшчы на ўсходзе «Плюс» з Беластоку.

Беларускую дэлегацыю, у склад якой у асноўным увайходзілі дэпутаты розных узроўняў амаль з усіх абласьцей, узначаліў Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Лявон Баршчэўскі. З польскага боку ўдзел бралі прадстаўнікі мясцовых самаўрадаў з прыгранічных рэгіёнаў.

Асноўныя мэты канфэрэнцыі прадугледжвалі абмен дасьведчаньнямі ў галіне дзейнасьці мясцовых самаўрадаў, ацэнку польска-беларускага прыгранічнага супрацоўніцтва і магчымасьцяў яго інтэнсіфікацыі, а таксама аналіз пэрспэктываў разьвіцьця і абмежаваньняў у гаспадарчых суадносінах Польшчы і Беларусі.

Як выявілася, абодва бакі недастаткова валодалі інфармацыяй аб мясцовым тэрытарыяльным самакіраваньні, гаспадарчай дзейнасьці сваіх суседзяў. Менавіта з гэтай нагоды было мноства пытаньняў да польскіх дакладчыкаў аб кампетэнцыі гміны ў сваім рэгіёне, яе структуры і дзейнасці. Асаблівую цікаўнасьць выклікаў даклад аб прынцыпах палітыкі экалагічнага разьвіцьця ў польска-беларускіх адносінах, у якім адзначалася, што далейшае працягваньне абедзьвумя краінамі такой сыравінна-энэргетычнай палітыкі, якая існуе сёньня, давядзе неўзабаве да экалагічнай, эканамічнай і грамадзкай катастрофы.

На жаль, з абодвух бакоў адсутнічалі прадстаўнікі бізнэсу і прадпрымальніцтва, што пазбавіла канфэрэнцыю больш канкрэтнага і дзелавога характару. Не зьявіліся ў Беласток запрошаныя ваяводы Гарадзенскай і Берасьцейскай вобласьцяў, якія маглі кампетэнтна праінфармаваць удзельнікаў імпрэзы аб стане і пэрспектывах гаспадарчай дзейнасьці паміж памежавымі рэгіёнамі.

Беларускай дэлегацыі была прадастаўлена магчымасьць выехаць у горад Гайнаўку, сустрэцца з уладамі гміны, наведаць першае ў Польшчы сумеснае прадпрыемства — мэблевую фабрыку.

Польскім удзельнікам, якія выязджалі на сустрэчу з уладамі горада Ваўкавыска, Гарадзенскай вобласьці, нават пасьля доўгага чаканьня, так і не давялося перасекчы мяжу Рэспублікі Беларусь, зразумела, па вядомых прычынах.

Былі і вынікі канфэрэнцыі, праўда, у большай ступені пакуль яшчэ хіба толькі для саміх удзельнікаў. Беларусы, эўрапэйскі народ, доўгі час не мелі магчымасьці самі супрацоўнічаць зь сваімі суседзямі і гэта адарваньне ад Эўропы сёньня адчувальна. Цешыць пакуль тое, што калі ёсць вынікі для людзей, значыцца з часам яны павінны стацца і для Беларусі.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

# ЖЫВЕ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»— ЖЫВЕ «ПАГОНЯ»

Жыцьцё ймкне наперад, яго «ня спыніць, ня суняць», як пяецца ў папулярнай песьне. Кожны дзень, тыдзень, месяц штосьці адбываецца; часам нічога не адбываецца. Але людзі неяк жывуць і хлеб жуюць, нягледзячы на тое, што цана апошняга падскочыла і, хто ведае, можа й надалей будзе скакаць угору. Здаецца, што тут дзіўнага? Проста ўсё зьвязана паміж сабой вельмі моцна. І калі дзёрнем за адну нітачку, уздрыгнецца ўся тканіна. Ну дык вось, усе працэсы, што адбываюцца ў нашым грамадзтве, і гэта ні для каго не зьяўляецца сакрэтам, так ці інакш адлюстроўваюцца на культуры. Нельга казаць, што цалкам адмоўна, але й нельга адмовіцца, што станоўча.

Тым часам у культурным жыцьці Гарадзеншчыны ўсё ж штосьці адбываецца. На пачатку красавіка ў Доме афіцэраў адбылася прэзэнтацыя культурна-асьветнага фонду «Бацькаўшчына» і газэты «Пагоня». Фонд «Бацькаўшчына» — рэгіянальная філія Згуртаваньня беларусаў сьвету. Мэта новай арганізацыі — адраджэньне нацыянальнай культуры на Гарадзеншчыне, а таксама — трывалыя сувязі зь землякамі на Беласточчыне і Віленшчыне. Што тычыцца газэты «Пагоня», то выходзіла яна ў 1920 годзе як ворган Міністэрства беларускіх справаў Летувы. А вось зараз выданьне адноўлена ў Гародні, што вельмі прыемна і добра, бо да гэтае пары (як ні сьмешна) у нашым старажытным, да слёзаў родным горадзе ня было ані воднай беларускай газэты, акрамя, хіба што, шматтыражкі «Гродзенскі універсытэт», якая на жаль зараз чамусьці не выходзіць.

Уступнае слова прамовіў праваслаўны сьвятар а. Сьцепуржынскі і асьвяціў залю крыжамі. А бел-чырвона-белы штандар «Бацькаўшчына» асьвяціў ксёндз, прачытаўшы колькі малітваў на беларускай мове. З добрымі пажаданьнямі фонду выступілі міністар народнай адукацыі Віктар Гайсёнак і старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў Дзьмітры Арцымене.

Самай, бадай, цікавай часткай вечарыны былі выступленьні танцавальнай пары, дзяўчат з мусульманскай суполкі, рок-гурта «Сэвэн Бі», хору клюбу «Паходня», фальклёрных ансамбляў «Гуды» і «Дударыкі» і, напэўна, пачастунак для абраных гасьцей...



Падмурак, здаецца, закладзены. Хочацца спадзявацца, што й надалей усё будзе складацца добра, і «Бацькаўшчына» разам з газэтай «Пагоня» зь цягам часу дасягнуць тае высокароднае мэты, дзеля якой яны створаны. У такім выпадку нам застаецца адно радавацца і, як прынята, уголас прамовіць: «Жыве!..»

**Людвік ЛІЦЬВІНОВІЧ.**

# ХОР «ДОЙЛІДСТВА» РЫХТУЕЦЦА ДА ЎГОДКАЎ

**Чарнобыльскай трагэдыі і хрышчэньня Беларусі**

**На пытаньні карэспандэнта «Пагоні» адказвае мэнэджэр хору Ўладзімір Лябецкі.**

**— Як вядома, хор меўся ўдзельнічаць у фэстывалі, які штогод у красавіку адбываецца ў нарвежскім горадзе Стордат. Ці не зьмяніліся вашыя пляны ў сувязі, скажам, з адсутнасьцю валюты!**

— Сапраўды, нашыя пляны зьмяніліся. Я атрымаў ліст з Нарвегіі, у якім нас паведамілі, што арганізатары перанесьлі фэстываль на наступны год. Мяркуецца, што праграма яго будзе пашырана. Такім чынам «валютнае пытаньне» адпала само па сабе. Раней я зьвяртаўся да патрыяршага экзарха Усяе Беларусі мітрапаліта Менскага й Слуцкага Філарэта з просьбай дапамагчы нам. Філарэт пагадзіўся «апрануць» хор, што для нас сёньня значыць нямала. Знайшоў магчымасьць дапамагчы хору й дырэктар педвучылішча Бразінскі, дзякуючы яму ў Калінінградзе друкуюцца каляровыя афішы, што таксама далёка нятанна. Разлічваем на падтрымку архіепіскапа Гарадзенскага й Ваўкавыскага Валянціна.

**— Але, спадар Уладзімір, ня хлебам адзіным жыве творчы калектыў.**

— Так, сёлета, у студзені, адбылася важная падзея — хор прыняты калектыўным членам Саюза музыкальных дзеячоў Беларусі. Зьмяніўся, і то значна, статус калектыва. Адзначу накірунак працы, якому хор надае ўсё больш і больш увагі. Гэта пошук старадаўніх твораў беларускай царкоўнай музыкі, ён актыўна вядзецца на нашай Бацькаўшчыне, а таксама ў ЗША, Канадзе.

**— Калі слухач сустрэнецца з хорам!**

— Плянуем выступіць з канцэртам у рамках абанемэнта Саюза музыкальных дзеячоў рэспублікі. Хацелася б даць дабрачынны канцэрт 26 красавіка, у дзень Чарнобыльскай трагедыі. Рыхтуемся запісаць дзьве плыткі — беларускай і рускай царкоўнай музыкі. Адказны выступ чакае хор увосень. Філарэт запрасіў хор прыняць удзел ва ўрачыстым канцэрце, прысвечаным 1000-ым угодкам хрышчэньня Беларусі.

**Занатаваў і апытаў Б. УЛАДЗІМІРАЎ.**

## СЛОНІМ

# ПАЛЯКАЎ СТАЦЬ НА ЧАСОПІС, БЕЛАРУСАЎ — НА ГАЗЭТУ

Нядаўна ў Слонімскай узбуйненай друкарні выдрукавалі першы нумар новага выданьня «MAGAZYN POLSKI». Гэта квартальнік Саюза палякаў Беларусі, як падрыхтаваны яго кіраўніцтвам. Наклад часопіса невялікі, калі ўлічыць, што выданьне будзе распаўсюджвацца па ўсіх абласьцях рэспублікі.

Аб тым, што ўяўляе сабой «MAGAZYN» і тое, што часопіс улічвае розныя густы чытачоў, сьведчаць рубрыкі: «З жыцьця палякаў на Беларусі», «З гісторыі мястэчак і вёсак», «Традыцыі людзей», «Скарбніца народнай літаратуры», «Творчасьць нашых чытачоў», «Пісьменства», «Літаратура й тэхніка», «Конкурс». Тут, у прыватнасьці, прадстаўлена «Gazeta Grodzenska», што выходзіла ў Гародні ў 1776 годзе. Чытача чакае 80 старонак цікавага чытаньня.

Новы часопіс павінен дапамагчы справе адраджэньня палякаў як нацыянальнае меншасьці на Беларусі.

Кошт аднаго нумара 5 рублёў. Як на сёньня — нядорага, калі ўлічыць якаснае паліграфічнае выкананьне.

Гэта ўжо другое выданьне (пасля газэты «Glos znad Niemna») на польскай мове.



# БЕЛАРУСКІЯ СКАУТЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ

У сакавіку ў Менску адбыўся Устаноўчы Сойм Аб'яднаньня Беларускіх Скаўтаў (АБС). На Сойм зьехаліся дэлегаты з усіх ваблясьцяў Беларусі. Больш за 110 чалавек прадстаўлялі ўжо створаныя структурныя адзінкі, харугвы й зьвязы зь Менску, Гародні, Маладзечна, Парэчча, а таксама і ствараемыя арганізацыі з усіх куткоў нашае Бацькаўшчыны. Сабралася і больш за 100 гасьцей, сярод якіх былі прадстаўнікі беларускага сьвятарства, дзеячы культуры і асьветы і шмат хто яшчэ.

Урачыстая частка Сойму пачалася агульнаю малітваю ўдзельнікаў Сойму пад кіраўніцтвам духоўных Вуніяцкае і Евангельскае канфесіяў. Пасля ўсе разам прасьпявалі «Пагоню».

Свой даклад «Беларускі скаўтынг і яго адраджэньне» прачытаў старшыня Аргкамітэта сп. Алесь Лозка. З прывітальнымі словамі да Сойму зьвярнуўся сп. Адам Мальдзіс, былая скаўтка Клецкай Народнай гімназіі сп. Галіна Дамашэвіч, прадстаўнікі Беларускага згуртаваньня Вайскоўцаў, Вярхоўнага Савету, дзеячы народнай адукацыі і іншыя спадары і спадарыні.

Пасьля сканчэньня ўрачыстае часткі, дэлегаты перайшлі да канкрэтнай працы па прыняцьцю Статута, рэзалюцыяў і выбараў кіруючых ворганаў Аб'яднаньня. Трэба зазначыць, што сур'ёзных пярэчаньняў прапанаваны праект Статута ні ў каго з дэлегатаў не выклікаў, таму і прыняты Статут быў даволі гладка.

У выніку адбыўшыхся пазьней выбараў былі абраныя Скаўт-Канцлер сп. Аркадзь Жукоўскі з Гародні, Скаўт-Падканцлер сп. Алесь Лозка зь Менску, а таксама 25-асабовая Рада Аб'яднаньня, Рэвізійная камісія і канцылярыя Аб'яднаньня.

22 сакавіка адбыўся тэарэтычна-практычны семінар «Беларускі скаўтынг і сусьветны дзіцячы рух. Вопыт летнікавай работы».

**Юрась ТАРАСЕВІЧ, сябра Рады Гарадзенскай Харугвы Скаўтаў.**

# МЫТНЯ — МУЗЭЮ

Фонды Гарадзенскага гісторыка-архіолёгічнага музэя папаўняе мытня, перадаючы туды рэчы, атабраныя ў грамадзян, якія вывозілі гістарычныя каштоўнасьці дзеля замежных трантаў і жуяк.

Сярод новых экспанатаў музэя — асабістыя рэчы Мікалая II: нататнік, календары, запіска Распуціна, посуд Кузьнецоўскага завода XIX ст., царскія знакі адрозьненьня, падсвечнікі XVIII ст., творы малярства.

Аднак і тут не ўсё гладка. Апошнім часам рэліквіі трапляюць у музэй цераз гарадзенскі аддзел Беларускага фонда культуры «на часовае захаваньне», бо фонд не мае магчымасьцяў захоўваць гістарычныя каштоўнасьці. Кіраўніцтва музэя звярнулася ў гарвыканкам зь просьбай прамяніць гэты парадак і перадаваць каштоўнасьці з мытні непасрэдна ў музэй. Пакуль пытаньне, як кажуць у такіх выпадках, разглядаецца, працаўнікі музэя рыхтуюць выставу «Выратаваныя каштоўнасьці», якую можна будзе ўбачыць у адной з заляў Новага замка.

**Уладзімір БАБЕНКА.**

**«А самае цікавае, што падвышкі цэнаў руйнуюць ня толькі дабрабыт насельніцтва, але й эканоміку!»**

# ІЗНОЎ З АГЛЯДКАЙ НА СУСЕДЗЯЎ

Большасьць з нас зь непакоем чакала надыходу красавіка. Вядома, сам па сабе гэты цудоўны месяц ні пры чым. Непакоілі падзеі, якімі гісторыя частавала грамадзтва чамусьці менавіта ў красавіку. Тут і славутыя ленінскія тэзісы, і катастрофа ў Чарнобылі, і паўлаўская спроба ратаваць эканоміку за кошт спажыўца... У гэтым шэрагу нічога людзкага. Чаго чакаць яшчэ? Як жыць?

На жаль, адказы на гэтыя пытаньні наўрад ці будуць аптымістычныя. Абвальная інфляцыя рубля адным махам абабрала насельніцтва. Яшчэ гады два таму ўладальнік 10-тысячнага рахунку ў ашчадбанку лічыўся заможным, асноўная частка грамадзянаў была, казённа кажучы, плацёжаздольная. Грошы зараблялі мазалямі, па капейцы адкладваючы на будучае. Ды й цэны дазвалялі ісьці ў магазін амаль па кожны тавар. Іншая справа, што гэтых самых тавараў заставалася ўсё менш і менш.

Вінавайцу знайшлі хутка. Праўда, ім аказалася чамусьці не разбэшчаная эканоміка, а народ. Маўляў, занадта мае грошай. Гэтую праблему вырашылі спраўна. Спачатку ў леташнім красавіку Паўлаў, потым улады незалежных дзяржаваў. І тавар на паліцах крамаў сёй-той зьявіўся, нават мэбля. Але ўжо далёка ня кожны чалавек здолее купіць. Тых жа дзесяць тысяч драўляных, што зьбіраліся сям 'ёй ледзь ня ўсё жыцьцё, сеньня ня хопіць нават на халадзільнік. Калі раней гарнітур у залю каштаваў 5—6 сярэднямесячных заробкаў, дык цяпер — каля дваццаці. А самае цікавае, што падвышкі цэнаў руйнуюць ня толькі дабрабыт насельніцтва, але й эканоміку! Пад пагрозай астаноўкі вытворчасьці аказаліся прамысловыя прадпрыемствы, будаўнічыя й транспартныя арганізацыі. Але ня з прычыны адсутнасьці сыравіны ці камплектуючых. Няма зваротных сродкаў, а дакладней — грошай. З гэтай нагоды шмат якія прадпрыемствы пазнаёміліся апошнім часам з банкаўскім тэрмінам «картатэка нумар два». На ёй «сядзяць», калі няма сродкаў аплочваць рахункі, а права на атрыманьне крэдыту згублена. Здавалася б, адсутнасьць сродкаў павінна прымусіць вытворцу шукаць пакупнікоў, як, дарэчы, гэта й робіцца ў рынкавай эканоміцы. Але што ісьці да спажыўца, які й сам сядзіць без капейкі!

Няма грошай у прадпрыемстваў, пустая й казна. Ужо ў першым квартале былі цяжкасьці з выплатай заробкаў, зь цягам часу, асабліва пасьля падвышкі тарыфа ў і пэнсіяў, становішча яшчэ пагоршыцца.

Мясакамбінаты і малаказаводы вобласьці вінныя калгасам і саўгасам каля мільярда рублёў. Чым разьлічвацца зь сялянамі? Але й пераапрацоўшчыкі ня жыруюць. Адзін толькі Санкт-Пэтэрбург не аддаў мясакамбінатам вобласьці 185 мільёнаў рублёў. Сама вобласьць вінна Расеі 250 мільёнаў, а тая, ў сваю чаргу, вобласьці — каля мільярда. Сьпіс неплацёжздольных пашыраецца з кожным днём.

А што, калі Расея павысіць цэны на паліва? Эканамісты падлічылі, што адна паездка ў гарадзкім аўтобусе ці тралейбусе абыйдзецца ў тры рублі, за горадам давядзецца плаціць за кіламэтар рубель і болей. Гэта, вядома, прагноз, але з тых, што збываюцца. Значыцца, напярэдадзе новыя падвышкі заробкаў, потым — цэнаў, недахоп грошай... На Украіне гэта даўно зразумелі і пераходзяць да разьлікаў на ўнутраным рынку па купонах. А Беларусь? РБ чакае канца сяўбы, якую, хутчэй усяго, правядзе на танным паліве. А потым як Бог дасьць, што ў нашым выпадку значыць адно: дзейнічаць а пасьля падзеяў. Наўрад ці такую тактыку можна назваць палітыкай незалежнай дзяржавы.

**І. ЧАРНУШЧЫК.**

# ВУЧЫЦЬ РЫНАК ПРАДПРЫЕМЛІВАСЬЦІ

Забесьпячэньне запчасткамі сягоньня — праблема для тых, хто мае грузавы аўтатранспарт, жыцьцёвая. Народнае прадпрыемства «Беллакт» (былы малочнакансервавы камбінат) даведалася, што запчасткі можна, ў прамым сэньсе слова, зарабіць у Набярэжных Чалнах, на КамАЗе, і не згубіла свой шанц.

Яшчэ летась пераапрацоўшчыкі заключылі з машынабудаўнікамі дамову, і камбінат накіроўвае на аўтазавод сваіх рабочых, а той у сваю чаргу продае на заробленыя імі грошы запчасткі. Сёлета на КамАЗе ўжо адпрацавала паўтара месяца брыгада з 16 чалавек, на наступны такі ж тэрмін адпраўлена 14 рабочых. Адначасова ў Набярэжныя Чалны накіравалася машына за першай партыяй запчасткаў.

Есьць у гэтых кантактах яшчэ адна карысная рэч: аўтамабілісты камбіната на мейсцы спазнаюць «кухню» зборкі машынаў, што можа спатрэбіцца ў штодзённай працы. І яшчэ адна праява рынкавых адносін на камбінаце: новы аўтамабіль дастаецца таму, хто езьдзіў працаваць на аўтазавод.

Зразумела, усе гэтыя новаўвядзеньні да рынкавай эканомікі маюць адноснае дачыненьне, аднак заўважым: сувязі паміж прадпрыемствамі наладжваць можна й без міністэрстваў, дзяржпланаў ды парткамаў.



Мая машына — мая крэпасьць.

**Палемічны ракурс**

# ШТО ЗА ПАСТАНОВАЙ?

Падобна, рынкавую эканоміку, як між іншым і камунізм, нашы ўлады разумеюць на свой капыл, і аніякія заклікі да здаровага сэнсу тут не дапамогуць. Бо калі аднаму цяжка, другому абавязкова будзе лепш. Сеньня лепш тым, хто распараджаецца таварам.

Калі прыгадаць крымінальную статыстыку ў Гародні, спрэчкі і плёткі, звязаныя з кірмашом на Антонава, то яго закрыцьцё на будзённыя дні не выклікае сумненьняў. Гарадзенцы й самі прасілі закрыць яго, ды не на пяць дзён на тыдзень, а назаўсёды. Таму што кірмаш спустошваў дзяржгандаль, жыраваў за кошт неразвітога, але працавітага насельніцтва, у якога не было ні часу, ні грошай стаяць у чэргах.

Аднак тым разам спэкуляцыю ня стрымалі. Сёньня сытуацыя зьмянілася на адваротную: на кірмашы шмат якія тавары сталі дзешавейшыя, чымсьці ў крамах (ня толькі камэрцыйных, але й дзяржаўных). І тут кірмаш прыціснулі і, канешне, «па просьбе» жыхароў і Кастрычніцкага райаддзела ўнутраных справаў. Але ці выйграюць жыхары й міліцыянты? Зразумела, што не! Так званае крымінагеннае становішча не палепшыцца, гандляр і пакупнік усё адно будуць шукаць мейсца сустрэчы, і злачынца тут будзе мець перавагу.

Тым ня менш тое-сёе зьменіцца. Напэўна звузіцца паток тавараў. Напэўна падскочаць цэны. Напэўна паглыбіцца мяжа паміж беднымі й багатымі...

Следчыя, як вядома, распачынаюць пошук злачынцаў з пастаноўкі простага, але істотнага пытаньня: каму выгадна? Мы таксама мусім адказаць на яго, калі хочам зразумець, што робіцца за зьнешне сэнсоўнымі, карыснымі для насельніцтва рухамі ўлады. Дык каму перашкаджаў кірмаш з больш таннымі таварамі? Адказ ляжыць на паверхні: неразваротліваму дзяржаўнаму гандлю і мафіёзным колам, з ім звязаным. Цяпер яны будуць дыктаваць цэны, бо канкурэнт аслаблены.

**Вольга КОТАВА.**

# НА ВАДНАГО МІЛЬЯНЭРА Ў ГАРОДНІ СТАЛА БОЛЕЙ

Кажуць, мільянэраў у Гародні, што зорак на небе. Праўда, клюб свой яны яшчэ не стварылі, больш таго — пазьбягаюць галоснасьці, баючыся як бальшавікоў, так і рэкеціраў. А спосаб памнажаць скарб і заставацца ў ценю знайшла наша неўміручая намэнклятура, якая здаўна парыстасавалася апісваць маёмасьць на крэўных, усоды распавядаючы тым часам пра сваю сьціпласьць і адданасьць справе.

Жыхар Гародні Н., чалавек адукаваны і, як выявілася, здольны камэрсант, за некалькі месяцаў прадпрымальніцкай дзейнасьці азалаціў свайго бацьку, выпісаўшы на яго імя некалькі рахункаў агульнай сумай больш за паўтара мільёна рублёў. Згодна з дагаворам гэты фантастычны заробак пэнсіянэр атрымаў за інфармацыйныя, кансультатыўныя і пасрэдніцкія паслугі, якія нібыта аказваў сыну.

Імклівы ўзьлёт новага багацея не застаўся незаўважаны. Тыя, хто «ня сьпіць на службе», западозрылі няладнае, узяліся шукаць парушэньні заканадаўства і хутка знайшлі іх. Даведаліся, што бацька прадпрымальніка, маючы ўсяго толькі сем клясаў адукацыі, пра маркетынг нічога нават ня чуў, так што й парады даваць ня мог, апрача аднае: «Багацей, сынку!» Зразумела, удзячны сын і за гэтыя словы мог адваліць бацьку мільён, але падатковая інспэкцыя разважыла інакш. На яе думку, прадпрымальнік завысіў выдаткі сваёй дзейнасьці, выплаціўшы бацьку 1715 тыс. руб., а зрабіў ён гэта дзеля таго, каб не плаціць падаткі. Справа ў тым, што пэнсіянэр карыстаецца стопрацэнтавай ільготай па падаткаабкладаньню.

Як не даводзіў сваю невінаватасьць Н., але зь яго банкаўскага рахунку ўсё ж такі сьпісалі: за парушэньне заканадаўства — 53,4 тыс. руб., падаходны падатак — 534 тыс. руб., падатак з продажу — 2,9 тыс. руб. Як кажуць, што можна пану, то ня Івану. Тым ня менш на рахунку засталося багата і на ваднаго мільянэра ў Гародні стала болей.

Рэдакцыя віншуе Н., напамінаючы між іншым (не яму, зразумела), што падаткі плаціць усё ж такі трэба.

**В. АЛЯКСАНДРОВІЧ.**

# ЯКІМ БАЧЫЦЬ НОВЫ ВС АПАЗЫЦЫЯ

**Тое, што стары Закон аб выбарах дрэнны, прызнаюць, відаць, усе. А праект новага, сьцьвярджае парляманцкая большасьць і яе намэнклятурныя прыхільнікі, супярэчыць усяму на сьвеце, і навогул — для такога Закона не падрыхтаванае грамадзства.**

Вярхоўны Савет трэба датэрмінова распускаць, лічаць адны. Але — ўзьнікае пытаньне — як выбіраць тады новы?

Вярхоўны савет распускаць заўчасна, гаворыць другія, ён распусьціцца сам пасьля прыняцьця новай Канстытуцыі. На мой погляд, яе, Канстытуцыю, ВС таксама не прыйме, бо для яго яна — сьмяротны прысуд.

Тупік? Так, але выйсьце ёсьць: яно ў тым праекце Закона аб выбарах, што распрацавала Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце.

Найперш адзначу: згадваньне новага Закону ў фармулёўцы пытаньня рэфэрэндуму — гэта не намаганьне прыняць Закон апытаньнем насельніцтва, не спроба націску. Прапануецца выкарыстаць гэты Закон усяго толькі адзін раз — на выбарах. Далейшы ягоня «жыцьцёвы шлях» залежыць ад дэпутатаў: прымуць пасьля дапрацоўкі ці адхіляць, іх справа.

Аўтары праекта Закона «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» улічылі недахопы дзеючага заканадаўства, уласны вопыт удзела ў выбарчых кампаніях, сусьветную практыку. Калі гаварыць сьцісла, прапануецца паменшыць колькасьць дэпутатаў з 360 да 160; зрабіць парлямант прафесійным (гэта прадугледжвае таксама праект Канстытуцыі); выбары праводзіць як па звычайнай сістэме (80 дэпутатаў абіраецца), так і па партыйных сьпісах (таксама 80 дэпутатаў); увесьці добраахвотную рэгістрацыю выбаршчыкаў; пазбавіць вайскоўцаў права галасаваць. Прапануецца й новы парадак падліку галасоў.

Памяншэньне колькасьці дэпутатаў перавод іх на прафэсіянальную парляманцкую працу дае, перш за ўсё, больш высокі якасны ўзровень прымаемых рашэньняў. Ня зьвязаныя службовымі абавязкамі, неабходнасьцю знаходзіцца на «асноўнай» працы дэпутаты будуць мець час для паглыбленьня сваіх эканамічных, палітычных, культурных ведаў, больш адказна і ўважліва вывучаць праекты законаў, якія распрацаваў урад, будуць ствараць і свае праекты. Немалаважна й тое, што выбарчая кампанія будзе каштаваць менш, бо партыям, якія вылучаць сваіх кандыдатаў, давядзецца выдаткоўваць уласныя сродкі.

Партыі парляманцкага тыпу на Беларусі толькі пачынаюць фарміравацца. Ці здольныя яны атрымаць большасьць галасоў на выбарах, усьвядоміць адказнасьць перад народам і аб ́яднацца ў імя народа, а не дзеля ўласных палітычных амбіцыяў? Зразумела, адказ на гэтае пытаньне дадуць выбары, хаця прадбачыць вынікі няцяжка. Існуючыя зараз партыі, на мой погляд, ня здольныя самастойна й больш-менш прадстаўніча змагацца за дэпутацкія мандаты. Але вучыцца трэба. Новыя выбары павінны стаць каталізатарам умацаваньня партыяў, іх палітычнага акрыяньня, высьвятленьня магчымасьцяў і здольнасьці браць на сябе абавязкі, а не толькі раздаваць абяцанкі.

Як плянуецца галасаваньне па партыйных сьпісах?

Партыі (блёкі партый, грамадска-палітычныя рухі) складаюць свае сьпісы кандыдатаў, якіх хацелі б мець у парляманце. Іх колькасьць у кожным сьпісе ня можа быць менш за 80, бо калі партыя атрымае абсалютную большасьць галасоў, яна павінна запоўніць усе 80 парляманцкіх месцаў. Не абавязкова дэпутатамі павінны стаць выключна кіраўнікі партыяў ці рухаў. Было б добра, каб у партыйныя сьпісы ўключаліся людзі прафэсіянальна дасьведчаныя — эканамісты, палітолёгі, юрысты.

Падлік галасоў, аддадзеных за кожны партыйны сьпіс, выявіць колькасьць месцаў, якую атрымала ў парляманце тая ці іншая партыя. Партыі, якія набралі менш за чатыры працэнты галасоў выбаршчыкаў, у разьмеркаваньні мандатаў не ўдзельнічаюць. Такая практыка прынята ў шэрагу краін, дзе выбары праходзяць на шматпартыйнай аснове: у Нямеччыні, Італіі, Даніі, Швэцыі.

Праект прапануе наступны парадак падліку галасоў на выбарах па партыйных агульнарэспубліканскіх сьпісах. Цэнтральная выбарчая камісія ўстановіць агульны дзельнік, для чаго колькасьць выбаршчыкаў, што аддалі перавагу таму ці іншаму сьпісу, падзеліць на 81 (80 — гэта колькасьць месцаў у парляманце для дэпутатаў, якія выбіраюцца па партыйных сьпісах адзінка дадаецца для таго, каб пры дзяленьні лічбы не акругляць, а адкідваць рэшту, што спрашчае падлік). Колькасьць галасоў, атрыманых партыяй, дзеліцца на агульны дзельнік. Цэлая частка лічбы пакажа колькасьць мандатаў, якія належаць партыі. Выбранымі будуць лічыцца тыя кандыдаты ў дэпутаты, чые парадкавыя нумары ў адпаведным сьпісе меншыя, ці роўныя колькасьці мандатаў, атрыманых гэтым сьпісам.

Астатнія 80 дэпутатаў абіраюцца па аднамандатных выбарчых акругах. Тут усё нам добра вядомае. Аднак права вылучаць кандыдатаў у дэпутаты маюць згодна з праектам 1000 выбаршчыкаў. Лічба гэтая зусім невялікая, бо акругі значна пашыраюцца. Аб ́яднацца па месцу жыхарства могуць ня толькі выбаршчыкі, але й сябры грамадзкіх арганізацыяў. Такім чынам, ніводная з групаў насельніцтва не пазбаўлена права вылучаць кандыдатаў, якія на яе погляд больш вартыя таго.

Выбаршчык, які добраахвотна засьведчыў сваё жаданьне ўдзельнічаць у выбарах і атрымаў адпаведнае пасьведчаньне, на ўчастку атрымае два бюлетэні. Адзін — з прозьвішчамі кандыдатаў у дэпутаты па выбарчай акрузе, другі — з назвамі партыяў, блёкаў ці грамадзка-палітычных рухаў. Парадак іх запаўненьня звычайны. Але падлік галасоў, што, зразумела, будзе розным, асобна па акругах — для кандыдатаў у дэпутаты па акрузе, і па ўсёй рэспубліцы — для партыяў. Выбраным па выбарчай акрузе будзе лічыцца дэпутат, які атрымаў найбольш галасоў, але не менш за 25 працэнтаў ад агульнай колькасьці выбаршчыкаў акругі. Гэтае ж патрабаваньне дзейнічае ў другім туры.

Варта спыніцца на добраахвотнай рэгістрацыі выбаршчыкаў. На погляд аўтараў праекта, закон аб выбарах павінен улічваць увесь спэктар палітычных правоў грамадзянаў, у тым ліку й права на сьвядомую адмову ад удзелу ў выбарах. Таму праект Закона распаўсюджвае паняцьце «выбаршчык» толькі натых, хто мае права ўдзельнічаць у выбарах, а да таго ж выказаў такое жаданьне. Пасля таго, як сьпісы выбаршчыкаў будуць складзены, у астатніх патэнцыяльных выбаршчыкаў застаецца магчымасьць узяць удзел у выбарах: у любы момант да дня галасаваньня можна ўключыць сваё прозьвішча ў дадатковы сьпіс.

Як відаць, тут улічана ўсё: і абыякавасьць да таго, хто будзе кіраваць дзяржавай, і сьвядомае нежаданьне ўдзельнічаць у выбарах, і жаданьне сказаць «так» ці «не» кандыдатам, партыям, рухам.

Пра выключэньне вайскоўцаў з выбарчай кампаніі можна сказаць наступнае. Ніхто не пазбаўляе вайскоўцаў магчымасьці быць кандыдатамі й дэпутатамі. Але ёсьць дзьве ўмовы: кандыдат павінен быць грамадзянінам рэспублікі Беларусь і ўсьведамляць, што пасьля выбараў давядзецца ісьці ў адстаўку, бо парлямант прафэсійны.

Чаму вайскоўцы павінны быць пазбаўленыя на гэтым этапе права галасаваць? Так вучыць сусьветная практыка, а таксама наш уласны вопыт. Папярэднія выбары паказалі, што войска «галасуе» згодна меркаваньням свайго начальства. Нельга забываць таксама й тое, што ў нас пакуль што сваё войска не сфарміравана, што не дзейнічае як трэба Закон «Аб грамадзянстве ў Рэспубліцы Беларусь».

Што яшчэ варта адзначыць, дык гэта тое, што праект Закону істотна зьмяншае магчымасьці намэнклятуры праводзіць у парлямант сваіх кандыдатаў, а значыцца, дае шанц сапраўды выбіраць дэпутатаў, стварае роўныя ўмовы для ўсіх партыяў, кандыдатаў, рухаў.

Вось па такім праекце Закона Апазыцыя і ініцыятыўная група прапануюць правесьці выбары Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь увосень 1992 года. Выбар — за кожным з нас.

**Марына САТОЛІНА,**
**кандыдат юрыдычных навук.**
**г. Менск.**



# ТРЫ ДЭМАКРАТЫ — ЧАТЫРЫ ПАРТЫІ

Ня буду сьцьвярджаць, але, думаецца, большасьць «шараговых» лідчанаў, каго клічуць народам, нават не здагадваецца, што ў Лідзе існуе некалькі партыяў дэмакратычнае арыентацыі, група падтрымкі БНФ, каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў. Не выключона, што ў гэты самы момант коштам іншых партыяў ствараецца нейкая новая. А чаму не? Напярэдадзе выбары.

— Можна падумаць, што галоўная мэта дэмакратаў,— гаворыць адзін з кіраўнікоў гарадзкога страйкама Яўген Куроўскі,— выявіць розьніцу поглядаў паміж сабой. Таму й посьпехаў мала. Нават новы будынак гаркама КПБ ня здолелі адваяваць у намэнклятуры і перадаць музвучылішчу. Задаволіліся адно зборам подпісаў пад зваротам да дэпутатаў у падтрымку гэтай прапановы. У мяне склалася ўражаньне, што лідэры партыяў баяцца ісьці да людзей, паказацца перад імі, ня вераць ва ўласныя сілы. А я ўпэўнены, што большасьць лідчанаў за тое, каб у будынку гаркама было музвучылішча. Трэба было зьвярнуцца да жыхароў горада, запрасіць іх на мітынг у дзень адкрыцьця сэсіі гарсавета, на якой разглядалася гэтае пытаньне. І лідчане пазьбіраліся б. А так што атрымалася? Прыйшлі дзеці, прынесьлі музыкальныя інструмэнты, а народныя выбраньнікі пасьмяяліся, пажартавалі, убачыўшы іх, і зрабілі тое, што хацелася.

Таксама цішком, як у падпольлі, зьбіраліся подпісы ў падтрымку рэфэрэндуму. Шмат хто нават ня ведаў дзеля чаго.

— Урэшце,— гаворыць Куроўскі,— калі й надалей каардынацыйная Рада будзе дзейнічаць такім парадкам, я выйду зь яе.

Зразумела, апошнія словы Куроўскага нельга ўспрымаць літаральна. Аднак я разумею роспач страйкамаўскага дзеяча й разам зь ім хачу зьвярнуцца да шматлікіх партыяў з пытаньнем: ці не зарана клапоцімся за будучыя партфэлі? З незабітага ліса кажух ня шыюць.

**Т. КУДРАШОВА,**
**г. Ліда**

# ВАШ ПРЫБЫТАК — НАШ КЛОПАТ!

## Біржа «ГРОДНА — ЗАХАД»

ЗАПРАШАЕ ДА ЎЗАЕМАКАРЫСНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА АРГАНІЗАЦЫІ І ПРАДПРЫЕМСТВЫ ЎСІХ СЕКТАРАЎ ЭКАНОМІКІ

Валодаючы брокерскімі мейсцамі на біржы «Гродна — Захад», вы зможаце:

— прадаць і набыць каштоўныя паперы, прадукцыю машынабудаваньня і металаапрацоўкі, хімічнай і цэлюлозна-папяровай прамысловасьці, будматэрыялы, электроннае, электрычнае і кабельнае абсталяваньне, тавары народнага спажываньня як за рублі так і за валюту;

— атрымаць дазвол здзяйсьняць біржавыя апэрацыі на ўсіх біржах, якія ўваходзяць у аб 'яднаньне «Белая Русь», размешчаных: Менск, Віцебск, Гомель, Магілёў, Брэст;

— атрымаць апэратыўную інфармацыю па міжбіржавых каналах з усёй тэрыторыі СНД, Прыбалтыкі і Закаўказьзя.

Біржа «Гродна-Захад» у складзе аб 'яднаньня «Белая Русь» увайшла ў акцыянернае таварыства «Кангрэс біржаў», якое аб 'ядноўвае вядучыя біржы Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Закаўказьзя з ліцэнзаваньнем міждзяржаўных зьдзелак.

Біржа «Гродна-Захад» валодае аўтаматызавана-камунікацыйнай сістэмай, якая адаптавана і выкарыстоўваецца на буйнейшых біржах СНД і за яе межамі.

Торг на біржы «Гродна-Захад» зьдзяйсьняецца: аўторак, серада, чацьверг, пятніца.

На штотыднёвыя таргі біржы выстаўляюцца 17 класаў тавараў на агульны кошт 1,5 млрд. руб.

Біржавы абарот перавышае 50 млн. руб.

Калі вы хочаце дасягнуць камерцыйнага посьпеху, праквітаньня сваёй справы, самае правільнае рашэньне?!

— стаць кліентам біржы «Гродна-Захад»

Наш адрас: Рэспубліка Беларусь, 230005, г. Гародня, вул. Церашковай, 18 р/р 467924 у філіі Беларускага прамысловаінавацыйнага банку «Прыорбанк» МФО 152101 код 718

| | |
|---|---|
| Біржавы канал: (0-252) | 44-26-53 |
| Факс (0-152) | 45-35-98 |
| Тэлефоны: | 45-46-10 |
| | 45-31-37 |
| | 45-31-36 |

Чакаем вашых прапаноў!!!

## КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Гэта:

— рэгіянальны асяродак беларусаў усяго сьвету;

— удзельнік зьнешніх эканамічных стасункаў з правам вядзеньня пасрэдніцкай дзейнасьці ў зьнешніх эканамічных апэрацыях як у валюце, так і ў рублях, а таксама на ўмовах кансігнацыі;

— генеральная ліцэнзія на вываз друкарскай прадукцыі, рэкламных лістоў і буклетаў, друкарскай рэпрадукцыі і фатаграфій.

Фонд, а таксама утвараемыя пры ім юрыдычныя асобы вызвалены ад падатку на прыбытак.

Фонд сузаснавальнік дзьвух біржаў: «Гродна—Захад» і «Гароднябіржа», заснавальнік пяці малых прадпрыемстваў.

Запрашаем прадпрыемствы, арганізацыі, кааператывы да супрацоўніцтва.

Тэл. 45-25-94.

## ТОЛЬКІ СЯГОНЬНЯ І ТОЛЬКІ ЗА РУБЛІ!

Усе віды брокерскіх паслуг на біржах Рэспублікі Беларусь і за яе межамі — гэта брокерская кантора «ГЕМІНІ».

У Вас ёсць праблемы з набыцьцём сырывіны і рэалізацыяй тавару? Брокерская кантора «ГЕМІНІ» Вам дапаможа!

Прадаём і здаём у арэнду брокерскія мейсцы на біржы «Гродна — Захад» сістэмы біржаў «Белая Русь».

БК «ГЕМІНІ» паведамляе прадпрыемствам, арганізацыям усіх формаў уласнасьці, юрыдычым і фізічным асобам аб правядзеньні далейшага адзінага міжнароднага гандлю на біржы «Гродна — Захад» у складзе «Кангрэса Бірж» з ліцензіраваньнем міждзяржаўных зьдзелак.

Мы запрашаем Вас да супрацоўніцтва.

Тэл. 47-14-23, 44-13-12.

## ФІРМА «NIKA IMEX»

— продае наложаным плацяжом высокаэфектыўныя тэхналёгіі вырошчваньня шампіньёнаў і вёшанак на садовым участку, у памяшканьні (кошт — 60 руб.);

— забясьпечвае пасадачным матэрыялам (міцэліям);

— запрашае на працу людзей з абмежаванай актыўнасьцю для прадукаваньня сувэніраў (хатняя праца).

Зьвяртацца па адрасу: 231 701, г. Гродна, вул. Кірычэнкі, 13.

## «Турыстычны цэнтр КАФ «БАЦЬКАЎШЧЫНА

прапануе турыстычныя паездкі ў Польшчу на 3 дні (4 даляры + 700 руб.) і Санкт-Пэтэрбург — Фінляндыя на 4 дні (35 даляраў + 2500 руб.).

Зьвяртацца па адрасу: турцэнтр «Бацькаўшчына», вул. Савецкая, 10, пакой 3.

## ПРАЕКТНА-БУДАЎНІЧАЕ МП «СЛАВЯНЕ»

— продае прадпрыемствам, арганізацыям і насельніцтву фундамэнтныя блёкі коштам 1100 руб. за 1 $м^3$ і пастаўляе іх на мейсца будаўніцтва;

— прымае ў прадпрыемстваў, арганізацыяў і насельніцтва дошкі для прадукаваньня разнастайных сталярных вырабаў.

Кантактны тэл.: 44-81-62.

Культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына» аб 'яўляе конкурс на заступленьне вакантнай пасады сакратара-машыністкі.

Абавязковыя ўмовы: уменьне весьці справаводства на беларускай мове.

Пажадана веданьне ангельскай мовы.

Тэл. 45-25-94

Культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына» запрашае часовыя працоўныя калектывы з сваімі аб 'ёмамі работ.

Аплата да 90%

Тэл. 45-25-94

Турыстычны асяродак культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына» устройвае падарожжа турыстаў у Рэспубліку Польша.

Зьвяртацца: вул. Савецкая, 10, пакой 3.

Брокерская кантора культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына», якая мае мейсцы ў сістэме бірж «Белая Русь» і на

супрацоўніцтва.

Тэл. 47-00-65, 44-27-10.

